

*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№8 сакавік 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы"

## ДА СВЯТА 25 САКАВІКА

Хоць няроўна, хоць крывенька
А ўзяла ўсёж разбег
Добры дзень, мая Крывінка,
І - са святам цябе !

Прытуліліся вёсачкі
У цябе ля грудзей,
Агародаў палосачкі
І усмешкі людзей.

Свеціць сонейка ветліва,
А ці дожджык імжыць –
Воды чыстыя, светлыя,
Плынь удалеч бяжыць.

Наша вёсачка Ранчыцы –
Край дзівосны такі:
Салаўі захлынаюцца
Тут вясной ля ракі.

І, напэўна, у свеце
Ты не стрэнеш нідзе
Такіх спраўных, прыветлівых,
Працавітых людзей.

Ім прыходзіцца мучыцца
Круглы год без віны.
Шлях іх цяжкі, пакручасты,
Як і твой да Дзвіны.

Мы сцяжынкамі рушым,
Марым пра бальшакі.
Ва ўсёй Беларусі
Шлях, здаецца, такі.

Як і ты, яна выб'ецца
На шырокі прастор,
І шляхі ёй адкрыюцца
Да святла і да зор.

А цяпер, хоць і крывенька,
Ды бярэ ўсё ж разбег
Беларусь – мая Крывінка –
Са Днём Волі цябе !

***Г. Станкевіч***

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ СВЯТА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ – ДЗЕНЬ ВОЛІ

Нягледзячы на шматгадовы ўціск і гвалтоўную асіміляцыю, беларускі народ 25 сакавіка 1918 года абвясціў на ўвесь цывілізаваны свет пра сваю незалежнасць, якая была потым прызнана цэлым шэрагам еўрапейскіх краін. Разам з незалежнасцю абвяшчаліся і дэмакратычныя свабоды для ўсіх грамадзян розных нацыянальнасцяў, што жылі на той час у этнаграфічных межах Беларусі. Гістарычная нацыянальная сімволіка ўрэшце сталася дзяржаўнай. Адразу ж распачалося ўтварэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі і культуры: з'явіліся беларускія школы і бібліятэкі, выдавецтвы і газеты, музеі і тэатры. Назвы " Беларусь" і "беларусы" былі канчаткова замацаваныя на палітычнай і этнічнай карце Еўропы.

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны віншуе з гэтым найгалоўным святам нашай дзяржавы як грамадзян Беларусі, так і суайчыннікаў замежжа, і жадае ўсім заўжды трымацца сваіх каранёў, ведаць і распаўсюджваць сваю мову, гісторыю і культуру!

Жыве вольная і дэмакратычная Беларусь !

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

## ДЗЕНЬ ВОЛІ

*У гэты дзень 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Калі б не было той падзеі, не было б зараз відаць незалежнай Беларусі. Нагадаем жа тыя дні:*

Ідэя незалежнасці заваёўвала ўсё больш прыхільнікаў. Кульмінацыйным момантам у барацьбе за дзяржаўнасць стаў першы Усебеларускі з'езд у снежні 1917 года, арганізаваны пры вядучай ролі Беларускай сацыялістычнай грамады. У працы з'езда ўдзельнічала 1872 дэлегаты з усіх рэгіёнаў Беларусі. З'езд прыняў першы праект пастановы пра самавызначэнне Беларусі і часовую краёвую ўладу ў асобе Ўсебеларускага савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У час прыняцця гэтага лёсаноснага гістарычнага для нацыі рашэння ў ноч з 17 на 18 снежня 1917 года з'езд быў разагнаны кіраўнікамі мясцовай бальшавіцкай улады пры дапамозе вайсковай сілы.

Але абраная Рада і Выканаўчы камітэт прадоўжылі дзейнасць с сталі адзінымі абаронцамі інтарэсаў беларускага народа. У лютым -сакавіку 1918 года Рада была пераўтворана ў парламент – Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР пад назвай Народны сакратарыят. 25 сакавіка 1918 года Рада выдала Ўстаўную грамату ў якой Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай.

Дата абвяшчэння БНР стала гістарычнай і штогод адзначаецца як Дзень Волі 25 сакавіка.

Але замацаваць беларускую незалежнасць у той час не ўдалося. З усходу наступала Чырвоная Армія, з захаду – польская. Рада мусіла выехаць спачатку ў Літву, потым у Прагу і ў Амерыку.Рада БНР да гэтага часу знаходзіцца ў замежжы ( у Канадзе) і захоўвае ідэю незалежнасці Беларусі. Яе ўзначальвае выдатная дзеячка беларускага замежжа Івонка Сурвіла.

***І. Макаловіч***

# СПРАВА МУРАЎЁВА – ВЕШАЛЬНІКА ЖЫВЕ І ПЕРАМАГАЕ ?

Хто не чуў пра ганебнавядомага дзекабрыста – адступніка, царскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва па мянушцы Вешальнік? Замольваючы перад тронам "грахі маладосці", ён праславіўся бязлітаснай жорсткасцю ў падаўленні нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Ён праводзіў на Беларусі палітыку ўсеахопнай мэтанакіраванай русіфікацыі, духоўнага падняволення беларусаў, вынікі яркага мы адчуваем і сёння. Яго адкрыта – цынічная формула " То, что не доделал здесь русский штык, доделает русская школа" стала стрыжнем дзейнасці чыноўнікаў Расійскай імперыі на зямлі нашых продкаў.

Не менш вядомае выказванне Мураўёва было звернута да прадстаўнікоў тагачаснага беларускага дваранства і інтэлігенцыі: "Забудьте наивные мечтания, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, то вы будете здесь иностранцами и должны будете покинуть этот край."

Сённяшнія "господа" забыліся "наивные мечтания" і працягваюць палітыку вынішчэння і цкавання ўсяго беларускага. Улада ў іх руках, а сэрцы іх ніколі не належалі зямлі, на якой яны жывуць. Мураўёўскае разуменне і адносіны да святыні і падмурку духоўнасці беларускага народа яскрава адлюстроўваюць лічбы. У нашым раёне 26 агульнаадукацыйных школ, з іх 22 – беларускамоўныя. Здавалася , вельмі добра, у большасці школ дзеці навучаюцца на беларускай мове. Але гэта павярхоўны аналіз. Беларускамоўныя школы невялікія, у большасці з іх па 50 –70 вучняў. Вось і атрымліваецца: усяго вучняў на першае верасня было 3 838, з іх па-беларуску навучаецца 1 700, што складае толькі 44% ад агульнай колькасці. А абедзве Бешанковіцкія школы, у кожнай з якіх пад тысячу дзяцей, - рускамоўныя. І беларускія класы ў іх не ў пашане.

Сітуацыя з беларускай мовай ва ўстановах раёна наогул трывожная. Асабіста я беларускамоўны асяродак знайшла толькі ў касцёле, які ў мінулым годзе аднавіў сваю дзейнаць у Уле. Там і ксёндз прамаўляе па – беларуску, і кніжкі малітоўныя на беларускай мове. На жаль, перастаюць быць носбітамі беларускага слова работнікі культуры. Давялося мне прысутнічаць на канцэрце ў раённым Доме культуры на каталіцкае Ражаство. Добры канцэрт, цудоўныя таленавітыя дзеці. Але і вядучыя, і выканаўцы перайшлі амаль на суцэльнае рускамоўе. Нават імя вядучай па сцэнарыю не Алеся ці Яніна, а нейкае заморскае – Эвеліна.

Няўжо беларуская мова так і не стане гаспадыняй на зямлі Беларусі? Сёння лёс мовы ў нашых руках. Калі мы ад яе адрачомся, адцураемся , - ці даруюць нам продкі, якія пралівалі сваю кроў за мову і незалежнасць Радзімы, і нашчадкі, якія прыйдуць на гэту зямлю пасля нас? Пытанне застаецца адкрытым, каб кожны мог падумаць і адказаць на яго сам.

***В. Гракун***

# ПРЫВІТАННЕ ВЯСНЕ

Абудзіся, старонка, ад доўгага сну
І вачамі праталін на сонейка ты паглядзіся.
Сустракай прыгажуню-красуню вясну,
Ручайкамі празрыстымі, звонкімі развесяліся.

Над прасторам тваім вецер сіверны дзьме,
Завіруха ўладарыць, не хоча сыходзіць у прочкі.
Кажухасты мароз перашкоды рыхтуе вясне,
Не пускае яе на парог зорнай ночкай.

Снег карункам бялюткім засыпаў ракі берагі
І ляжыць, быццам летаваць тут застанецца.
Ды прыйдуць саракі, прыляцяць гаваркія шпакі,
Сон-трава зацвіце, і нідзе ўжо зіме не падзецца.

І яна адступае, цішком паміж лозаў брыдзе,
У адчаі губляе свайго верхавенства паводдзе.
Абуджэнне прыроды нястрымна і хутка ідзе.
Сустракай, родны край , веснавое разводдзе.

***Уладзімір Асокін***

## ЛЯПСУСЫ З ВУЧНЁЎСКІХ САЧЫНЕННЯЎ

*** На карціне паказаны забітыя каровы, якія пабеглі ў лес.
*** Восенню лісты бываюць жоўтымі, чырвонымі і карымі.
*** Поле скошана і пакладзена ў стагі.
*** Гусляр добра гуляў на гуслях.
*** Па дарозе едзе вялікая таўпа машын.
*** Тых бальшавікоў, якіх на з'ездзе было мала, назвалі меншавікамі.
*** Эпічнымі называюць творы, у якіх многа эпітэтаў.
*** К. Каліноўскі выдаваў газету "Мужчынская праўда" ("Мужыцкая праўда")
*** Мы прачыталі аповесць " На прасторах жыцця", у якой расказваецца пра жыццё і будаўніцтва моладзі.
*** У гняздзе сядзела птушка з шэрымі яйкамі.
***Янка Брыль напісаў раман " Птушынае гняздо" ("Птушкі і гнёзды")
*** Іван Мележ нарадзіўся ў вёсцы Галянішча (Глінішча)… Ён напісаў раман "Мінская панарама" (Мінскі напрамак")

*Запісала настаўніца Бачэйкаўскай школы* ***А. Г.Арлова***

# 21 сакавіка – 160 гадоў са дня нараджэння Францішка Багушэвіча.

*У 1891 годзе над аглухшай, анямелай пад прыгнётам Беларуссю на ўвесь свет разнёсся голас Мацея Бурачка, што Беларусь жывая, што яна хоча жыць сваім адметным жыццём. Творы Багушэвіча перапісваліся ад рукі, завучваліся на памяць. Яны былі крамольныя за царскім часам і ў савецкую пару, таму што было зашмат праўды. А хто ж праўду любіць? На Багушэвічавых творах вырасла не адно пакаленне чытачоў.Багушэвіч быў і ёсць самабытная постаць. І застанецца такім праз стагоддзі.Згадаем адзін яго верш:*



*Францішак Багушевіч*

***МАЛІСЯ, БАБУЛЬКА, ДА БОГА...***

***Маліся ж, бабулька, да Бога,***
***Каб я панам ніколі не быў:***
***Не жадаў бы нічога чужога,***
***Сваё дзела як трэба рабіў.***
***Каб прад меншых я носу не драў,***
***А прад большым не корчыў спіны,***
***Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,***
***У другіх каб не відзеў віны.***
***Каб мне дзеці былі ў слуху,***
***Каб я бацькам для іх век дажыў.***
***Каб людзей прызнаваў за братоў,***
***А багацтва сваё меў за іх,***
***Каб за край свой умерці гатоў,***
***Каб не прагнуў айчызны чужых***
***Каб я бога свайго не акпіў,***
***Каб не здрадзіў за грошы свой люд...***



Цясляр з Прыдзьвіння..
*Чым не Мацей Бурачок ?*

Францішак Багушэвіч, паэт-дэмакрат, - самая яркая і каларытная фігура ў беларускай літаратуры 19 стагоддзя. Па духу, па ідэалогіі, па спосабу мыслення ўся яго паэзія была глыбоканацыянальная, мы па праву можам лічыць яго першым нацыянальным паэтам. Адвакат па прафесіі, Ф. Багушэвіч і ў літаратуры стаў адвакатам – абаронцам правоў прыгнечанага' беларускага народа, правоў на свабоднае развіццё нацыянальнай культуры, літаратуры, мовы. Ен першы заявіў аб значэнні роднай мовы ў жыцці чалавека і грамадства. Багушэвіч называў сябе чалавекам, "які нарадзіўся так, што яго эпоха ніколі не надыдзе".

У сваёй прадмове да зборніка "Дудка беларуская" Багушэвіч пісаў: "Што ж мы за такія бяздольныя?! Якаясь маленькая Булгарыя – са жменьку таго народу – якіясьці харваты, чэхі, маларосы і другія маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі і газеты, і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць, а ў нас як бы захацеў да бацькі лісток напісаць па- свойму, дык можа б і ў сваёй вёсцы людзі...як дурня абсмяялі б!..Наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная...Ці ж нам толькі на чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а можа нават і трэба знаць суседскую мову, але наперш трэба знаць сваю."

Нарадзіўся Ф. Багушэвіч 21 сакавіка 1840 года у сям'і збяднелага віленскага шляхціча. Маленства і свядомыя гады прайшлі ў Кушлянах. Ужо ў Віленскай гімназіі вызначыўся светапогляд будучага пісьменніка. У 1861 годзе паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Аднак, пасля ўдзелу ў студэнцкіх хваляваннях, яму давялося вярнуцца на радзіму. Пайшоў працаваць настаўнікам у вёску на Лідчыне. Там і застала Багушэвіча паўстанне 1863 года, у якім ён прыняў самы актыўны ўдзел. Гісторыя не данесла да нас звестак ці быў ён асабіста знаёмы з Каліноўскім, але адзінства поглядаў і думак безумоўна было. Пасля паражэння паўстання Ф. Багушэвіч пакідае Беларусь і вяртаецца толькі пасля амністыі.

У 1891 годзе выходзіць яго першая кніжка вершаў " Дудка беларуская" пад псеўданімам Мацей Бурачок, а ў 1894 – яшчэ адзін зборнік – " Смык беларускі". У цэнтры ўвагі пісьменніка – селянін, беларус, якому заўсёды спадарожнічае гора, голад, бо яго абдзірае казна, крыўдзіць суд і царская адміністрацыя. Амаль усе яго вершы прасякнуты потам і слязьмі, выклікаюць смутак, незадавальненне, жаданне змяніць жыццё.

У 1899 годзе выйшла яшчэ адна кніга "Беларускія апавяданні Бурачка". Паэт працаваў над слоўнікам беларускай мовы, падрыхтаваў трэццюю кнігу вершаў, лёс якой невядомы. Памёр у Кушлянах у 1900 годзе.

Веліч Ф. Багушэвіча неаспрэчная, яе адчувае і творчая Беларусь, і просты народ. У Кушлянах пасля смерці паэта на вялікім валуне быў выбіты надпіс : "Памяці Мацея Бурачка", яго імя ўвекавечана на памятнай дошцы ў Жупранскім касцёле. Ёсць помнік песняру ў Жупранах. А вось у сталіцы Беларусі помніка Праўдашукальніку і генератару беларускай думкі да гэтай пары няма.

***Т. Г. Капціловіч, былая настаўніца беларускай мовы.***

# НЕ ЦУРАЙЦЕСЯ РОДНАЙ МОВЫ

*Якія знаёмыя назвы і словы,*
*Якая цудоўная родная мова!*
*І ўсё мілагучна для слыху майго:*
*І звонкае "дзе", і густое "чаго".*
***Пімен Панчанка***

Паважаныя сябры, жадаю з вамі пагаварыць аб нашай бацькавай спрадвечнай мове. Хачу ўспомніць былое, ды нагадаць будучае, якое нас чакае.Будучае заўсёды хвалявала людзей сваёй таемнасцю, невядомасцю, непрадказальнасцю. У будучае нельга зазірнуць, але на яго можна паўплываць сваімі ўчынкамі і думкамі сёння.

Свабоднае валоданне беларускай мовай дае магчымасць карыстацца ўсімі духоўнымі каштоўнасцямі і здабыткамі навукі. Наша мова мае вялікае значэнне ў выхаванні нацыянальнай самасвядомасці і годнасці беларусаў. Пры дапамозе мовы, як сродку зносін, людзі наладжваюць сувязь паміж сабой, абменьваюцца думкамі, дасягаюць узаемаразумення, пазнаюць навакольны свет, робяць адкрыцці. Менавіта праз мову чалавек далучаецца да нацыянальна-культурнай спадчыны і гісторыі. Усё гэта павышае гонар за мінулае і адказнасць за будучае свайго народа.

Карані беларускай мовы  у глыбіні сівых вякоў. У шматнацыянальнай дзяржаве Вялікае княства Літоўскае беларуская мова была дзяржаўнай. Надзвычай вялікую ролю ў развіцці беларускай мовы адыграла дзейнасць усходнеславянскага першадрукара, гуманіста, перакладчыка Францыска Скарыны, які надрукаваў на беларускай мове шмат кніг. Дзейнасць Скарыны працягвалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і іншыя.

З уваходам Беларусі ў Рэч Паспалітую склаліся вельмі неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай мовы. Дзяржаўнай мовай стала польская, праводзілася палітыка прымусовага апалячвання. А беларуская знаць прыняла каталіцкую веру і дабраахвотна стала карыстацца польскай мовай. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь увайшла ў Расійскую імперыю. Рускі царызм пачаў праводзіць палітыку русіфікацыі. Але беларуская мова і беларуская літаратура працягвалі існаваць і развівацца. Беларускі народ, нягледзячы на ўсе перашкоды, захаваў на працягу стагоддзяў сваю мову, звычаі, культуру.

У цяперашні час вельмі важна выхаваць маладых беларусаў так, каб яны любілі і шанавалі бацькоўскую зямлю, матчыну мову, ведалі мінулае свайго краю. На жаль, цяпер усё менш і менш людзі карыстаюцца беларускай мовай. Скарачаецца колькасць беларускіх школ і класаў. А гэта вельмі сур'ёзная бяда для беларусаў, бо калі не будзе мовы, то знікне і нацыя, знікне сама Беларусь.

Калі сярод сучаснай моладзі размаўляць на беларускай мове, то на цябе глядзяць, як на белую варону. Як трапна сказаў Анатоль Вярцінскі: "баіцца быць беларус беларусам"

Мы ганарымся вялікімі майстрамі роднага слова, якія агучылі яго цэламу свету. А самі саромеемся выказваць свае думкі роднымі мілагучнымі словамі. Беларуская мова – гістарычная і адметная. Яна не павінна быць ахвяравана на самазабыццё і скасаванне ў афіцыйным выкарыстанні і звычайным ужытку. Яна павінна пашырацца і выконваць вядучую ролю ў развіцці нацыянальнай культуры. Дык давайце ж шанаваць і паважаць родную беларускую мову –мову нашых бацькоў !

***Кавалёнак Кацярына***, вучаніца 9-а класа
Бешанковіцкай сярэдняй школы № 1,
член гуртка "Юны журналіст".







***У чым жа вы, таполі, вінаватыя ?***

# АДКУЛЬ НАШ РОД

Паводле кнігі Уладзіміра Арлова, працяг

# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

Усяслаў Чарадзей княжыў у Полацку з 1044 па 1101 год, узыйшоўшы на трон у 15-гадовым узросце. Пры ім Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці. Захоплена пісаў пра Ўсяслава Брачыслававіча аўтар "Слова аб палку Ігаравым".

Усяслаў пабудаваў у Полацку храм у гонар святой Сафіі, каб даказаць свету роўнасць з Ноўгарадам і Кіевам, дзе такія храмы з'явіліся трохі раней . Узводзілі храм візантыйскія дойліды. Таўшчыня сцен – да двух з паловай метраў. Вузкія выцягнутыя вокны, каляровыя фрэскі на сценах. Сем купалаў з пазалочанымі крыжамі. Да нашых дзён ацалелі толькі падмуркі таго храма. Тут не толькі маліліся, але і прымалі паслоў, захоўвалі княжы скарб і бібліятэку, падпісвалі мір і гандлёвыя дамовы.

Жыццё Усяслава ахутвалі легенды. Яго вайсковыя перамогі прыпісвалі не толькі збройнай сіле і мужнасці, але і чарадзейным здольнасцям. Ен прайшоў пераможцам па вуліцах Ноўгарада, у 1067 годзе абараніў крывіцкую дзяржаву ў бітве на Нямізе. А на Дняпры Яраслававы сыны, якія княжылі ў Кіеве, хітрасцю ў час перамоваў вераломна захапілі Усяслава ў палон. Год сядзеў ён у кіеўскай вязніцы з думкамі пра Бацькаўшчыну. Праз год, у час нападу на Кіеў полаўцаў, Усяслава вызвалілі і абвясцілі Кіеўскім князем. Але ён вярнуўся на зруйнаваную радзіму, дзе працягваў барацьбу за яе незалежнасць. Ен выгнаў з Полацка кіеўскага стаўленніка Святаполка.

Вайной на Полацк ішоў Уладзімір Манамах. Полацк выстаяў. Ягоная ўлада пашыралася да самага Балтыйскага мора. Крывіч-горад (Вільня) і іншыя прыдзвінскія гарады былі пад уладай Усяслава. Полацк пры ім стаў буйным горадам, там жыло каля дзесяці тысяч чалавек. Каля Сафійскага сабора падняўся княжы двор: высокі драўляны хорам на два паверхі са святліцамі і палатай на сотню гасцей.

У горадзе жылі майстры больш чым 60 спецыяльнасцяў: ганчары, бондары, шаўцы, ткачы, меднікі, ювеліры, збройнікі. Горад умеў гандляваць. На прылаўках можна было сустрэць не толькі вырабы мясцовых рамесленнікаў і сялян, а і візантыйскія тканіны, усходнія прыправы, грабяні з каўказкага самшыту ці сердалікавыя пацеркі з Сярэдняй Азіі. Чулася на торжышчы і еўрапейская гаворка. Першае месца ў полацкім імпарце займала соль, у экспарце – воск і футры. Разлічваліся срэбнымі зліткамі – грыўнямі.

Галоўнымі дарогамі былі водныя. Па Дзвіне снавалі невялікія выдаўбленыя чаўны-аднадрэўкі. З вялікай ліпы маглі зрабіць і больш вялікую лодку, куды змяшчалася некалькі коней і людзей. Ішлі па рацэ важка наладкаваныя таварам пласкадонныя стругі. Паўсотні вяслоў трымала ладдзя.

На высокіх берагах усцяж Дзвіны будавалі "глядзені", адкуль вартавыя сачылі , ці не набліжаецца вораг і ў выпадку небяспекі запальвалі сігнальныя агні. Ланцужок агнёў хутка дабягаў да горада і жыхары бралі ў рукі зброю.

Полацк у часы Усяслава Чарадзея зрабіўся значным цэнтрам асветы. Княжых і баярскіх дзяцей манахі вучылі дома. Дзейнічала школа пры Сафійскім саборы.

Князь узначальваў войска, кіраваў дзяржавай. Але ў горадзе была і другая ўлада – веча. Веча вырашала пытанні вайны і міру, вяршыла суд , заключала дамовы і ацэньвала дзейнасць князя. Веча мела права запатрабаваць ад уладара адказу за прайграную бітву і нават за перамогу, калі тая каштавала занадта дорага. Веча само запрашала князёў на пасаду (праўда, абавязкова з роду Рагвалодавічаў).

Усяслаў - Чарадзей пакінуў на радаводчым дрэве полацкіх уладароў магутную галіну. Апрача дачкі , дзякуючы якой у жылах візантыйскіх імператараў бегла крывіцкая кроў, ён меў шасцёра сыноў. Суседнія гарады робяцца сталіцамі ўдзельных княстваў, дзе кіруюць Усяслававічы. Падзел на асобныя княствы даў новы ўсплёск эканамічнага і духоўнага жыцця, ён не азначаў страту адзінства. Калі трэба было, князі злучалі свае дружыны і разам адстойвалі незалежнасць.

На пасад у Полацку пасля Усяслава сеў старэйшы сын Барыс-Рагвалод. У тыя часы была традыцыя даваць падвойныя імёны: адно спрадвечна-славянскае ад нараджэння, другое, пераважна грэцкае, ад хрышчэння. Барыс зрабіў паход на балцкае племя яцвягаў і, перамогшы іх, пабудаваў горад Барысаў. У розных месцах Полацкага княства захаваліся вялізныя валуны з пісьмёнамі – Барысавы камяні. Адзін з іх можна ўбачыць сёння побач з Сафійскім саборам, ідучы на вайну князь прасіў дапамогі у Бога.

## *ВЫПІСВАЙЦЕ " НАША СЛОВА"*

Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны выдае сваю рэспубліканскую газету " Наша слова", падпісны індэкс 63865. У газеце шмат цікавай інфармацыі аб падзеях сённяшніх і мінулых, змяшчаюцца матэрыялы аб духоўным і культурным жыцці, друкуюцца артыкулы і мастацкія творы знакамітых пісьменнікаў. Газета патрэбна і настаўнікам беларускай мовы, і выкладчыкам гісторыі, і для педагогаў пачатковых класаў і дашкольных устаноў, і для ўсіх руплівцаў роднай мовы і адраджэння Бацькаўшчыны. У гэтым годзе сакратарыят ТБМ за кошт ахвяраванняў аформіў падпіску на Бешанковіцкую раённую бібліятэку і 17 школ раёна на другі квартал. Спадзяюся, пазнаёміўшыся з гэтым выданнем у раённай ці школьнай бібліятэцы, чытачы захочуць у далейшым выпісваць яе самастойна, тым больш, што гэта адна з самых танных газет.

***В. Гракун, кіраўнік Бешанковіцкай суполкі ТБМ.***

ПЕРВОЦВЕТ ВЫСОКИЙ (ПРИМУЛА)

*З " Чырвонай кнізі Беларусі"*

## ПЕРШАЦВЕТ ВЕСНАВЫ

( прымула, ключыкі, баранчыкі )

Шматгадовая бессцяблован расліна вышынёй 10-30 сантыметраў. Лісце яйцападобна-прадаўгаватае, маршчыністае, сабрана ў прыкаранёвай разетцы. Цвіце ў маі. Кветкі светла-жоўтыя, паніклыя, з моцным мядовым пахам. Суквецце нагадвае звязку залатых ключоў, адсюль і адна з назваў. Сваімі залатымі ключамі першацвет адчыняе лета.

Размнажаецца насеннем. Таму адразу зразумела, што кветкі рваць нельга, бо без іх і насення не будзе. Колькасць віду значна паменшылася ў выніку гаспадарчага асваення і збору цвітучых раслін. За прыкладам не трэба далёка хадзіць. У канцы васьмідзесятых гадоў невялікая курцінка першацвету расла ля рэчкі недалёка ад цяперашняга паста ДАІ. Праз некалькі гадоў ад яе засталіся толькі успаміны і фотаздымкі, а першацвет знік. Дарэчы, у нашым раёне першацвет сустракаецца даволі рэдка. Ведаю толькі адну прыгожую мясцінку, дзе яшчэ захаваўся ў дзікім выглядзе зараснік першацвету, - гэта былая панская сяліба каля вёскі Плісы. Спадзяюся, што ён захаваецца там і пасля публікацыі, а мясцовыя жыхары і госці будуць беражліва захоўваць падарунак прыроды, каб убачылі гэту кветку іх унукі і праўнукі.

Першацвет валодае лекавымі уласцівасцямі, выкарыстоўваюць лісце і карнявішчы. Лісце можна дабаўляць у салаты, вітаміну С у ім так шмат, што 2 лісты забяспечваю сутачную норму чалавека. Існуе шмат дэкаратыўных форм першацвету, яны даволі распаўсюджаны ў нашых палісадніках. Дарэчы, вузельчык на памяць: для усіх прымул шкодны свежы перагной. А вось на зіму іх трэба крыху абсыпаць пажыўнай зямлёй, каб не вымерзлі.

*Гэта было...*

## З РАСКАЗАЎ МАЙГО БАЦЬКІ

## ЯК КАМУНУ БУДАВАЛІ

Гэта было недалёка ад нашай вёскі Курэйшчына Сенненскага раёна. У суседняй вёсцы Канстантова было памесце пана Абізерскага. Пан меў добрую гаспадарку, адных кароў каля трыдцаці галоў. Наймаў работнікаў. Плаціў добра. Бывала, прыйдзе да яго раніцай селянін з двухвёдзерным лубком, каб сеяць, дык вечарам пан яму поўны лубок зерня і насыпле.

Прыйшла рэвалюцыя.Мужыкі яшчэ працавалі ў пана, але працавалі ўжо не так шчыра і ўсё часцей вялі такія размовы:

- Пан, плаці нам болей, што ты нам мала плоціш.
- А мне болей плаціць гаспадарка не дазваляе.
- Як не дазваляе? Ты ж пан, сам сабе гаспадар, колькі захочаш, столькі і можаш заплаціць.
- Ды не, - кажа пан, - не магу. Мне трэба гаспадарку развіваць, быка трэба племяннога купіць, малацілку…

Размовы тыя вяліся нядоўга. Пана забілі, а ў ягоным маёнтку арганізавалі камуну. І вось раніцай збіраюцца камунары, выводзяць з хлява панскую карову, рэжуць яе і разносяць мяса па дамах, трэба ж і самім добра пад'есці і сям'ю накарміць. Калі ўсіх кароў з'елі, камуна распалася. Камунары, у адрозненне ад пана, пра развіццё гаспадаркі і пра заўтрашні дзень не думалі, ім трэба было сёння смачна пад'есці. Пасля тыя ж камунары стварылі калгасы, налічвалі за працу пусты працадзень і прымушалі большасць народа дарма працаваць на іх.

Нашчадкі тых камунараў і зараз яшчэ кіруюць намі…

## АДКУЛЬ У СТАРШЫНІ ШЫФЕР

Гэта было недзе на пачатку шасцідзесятых. Старшыня нашага калгаса, ён жа па сумяшчальніцтву і сакратар парткама, пабудаваў сабе новую хату. Заставалася толькі накрыць дах. У гэты час трое калгаснікаў, сярод якіх былі брыгадзір і загадчык калгаснага склада падалі заявы на прыём у партыю. Старшыня і даў ім першае "партыйнае" даручэнне: - Будзе ў мяне на хаце шыфер – будзеце ў партыі!

Будучыя камуністы адчынілі калгасны склад, выгрузілі адтуль шыфер і перавезлі да старшыні.Старшынёву хату хуценька накрылі, а праз некалькі дзён загадчык склада выцягнуў з дзвярэй прыбой і залямантаваў на ўсю акругу: "Шыфер укралі!". Злодзея шукалі, але вядома ж не знайшлі.

Пачаўся сенакос. Раней калгаснікам касіць нідзе не дазвалялі, кожны выкручваўся, як мог, каб назапасіць корм для сваёй адзінай карміцелькі. Нехта скасіў у недазволеным месцы. Гэта заўважыў брыгадзір і даў загад аднаму з калгаснікаў, нашаму суседу: "Едзь, забяры тое сена ў калгас." –Не паеду!,- рашуча адмовіўся той. Брыгадзір далажыў старшыні. Старшыня пад'ехаў да суседа на кані і, не злазячы з брычкі, пачаў размову:

- Сяргей, табе брыгадзір казаў сена забраць?
- Казаў.
- Дык чаму ж ты не забраў?
- Вось каб ён мне сказаў калгасны шыфер з тваёй хаты зняць і назад у склад адвезці, я б паехаў. А за сенам не паеду, калгас жа яго не касіў!
- Старшыня нічога не адказаў, тузануў лейцы і панёсся па вуліцы прэч, толькі пыл стаўбом услед.

***Г. Станкевіч***

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ". № 8, сакавік 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна.